Год II. — № 14. Пятніца, 8-га красавіка (апрэля) 1921 г Цана нумару 6 марак.

# НАША ДУМКА

Палітычная, эканамічная і літэратурная тыднёвая газэта.

У газэце супрацоўнічаюць: НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА, Г. Б., ГЕННАДЗІЙ БОГДАНОВІЧ, ВІЛЯНЧУК, МАКСІМ ГАРЭЦКІ, А. ДМАХОУСКІ, АЛЕСЬ КАБЫЧКІН, КРАУЦОУ МАКАР, ДЗЕД КУЗЬМА, М. К-Ч. А.-МСЬЦІСЛАУСКІ, ІВАН МЯЛЕШКА, АНТОН НАВІНА, АДАМ САЛАДУХ, СТАНІСЛАУ ЧЫЖЭУСКІ і інш.

Адрэс рэдакцыі і канторы: Вільня, Вострабрамская, 9.

Цэны абвестак: за адзін радок самага дробнага друку на апошняй страніцы 10 польскіх марак.

Падпіска: на 3 месяцы 100 польскіх марак або 5 хунтаў мукі.

Просім паважаных падпісчыкау зьвярнуць увагу на перамену нашага адрэсу.

## Мір у Рызе і Беларусь.

Умова, падпісаная 18 сакавіка ў Рызе між Польшчаю з аднаго боку і Савецкай Расеяй, Украінай і Беларусьсю з другога, зьмяшчае некалькі досыць значных зьменаў раўнуючы з тэкстам пралімінарнага міру з 12 кастрычніка 1920 г.

Артыкулам 2 міравыя ўмовы ў Рызе з 18 сакавіка 1921 г. Расея і Польшча, як і раней, прызнаюць незалежнасьць Беларусі, але гэты-ж артыкул прадугледжывае беспасрэдную граніцу і між Польшчай і Расеяй; 12 кастрычніка 1920 г. Польшча павінна была гранічыць толькі з Беларусьсю і Украінай.

Гэтая новая агульная граніца зрабілася дзеля таго, што Расея „са згоды Усебеларускага зьезда саветаў“ прылучыла к сабе усю Віцебшчыну, г. ё. чацьвертую часьціну усяе Савецкае Беларусі.

Апроч таго, Польшча яшчэ дастаець „папраўкі“ на Беларускай тэрыторыі вокал Радашковіч і ў Тураўскай пушчы.

Артыкул 7-мы гарантуець правы беларускае нацыянальнае „меншасьці“ (!) у чыста беларускіх правінцыях, аддадзеных Польшчы.

Артыкул 8-мы прадугледжывае адмову ад паквітаваньня стратаў ад вайны. Тут ізноў Расея і Польшча робяць умову на рахунак Беларусі, бо ад вайны цярпелі толькі баларускія землі.

Дзеля нас гэтая ўмова, выяўляючая насьмішку над агалошанным Расеяй і Польшчай правам на вольнае самавызначэньне народаў (гл. увод да арт. 2), ня можа мець ніякай абавязковай моцы.

Умова гэтая выяўляе сабою падзел Беларускае зямлі, прычым Польшчы аддаецца уся Горадзенская губэрня і частка Віленскае і Менскае, а Расеі — уся Віцебская. Савецкая Беларусь застаецца пры гэтым пад пратэктаратам Расеі.

Надта заўважаецца яшчэ тое, што ў часе рыжскіх перагавораў у кастрычніку леташняга году на конфэрэнцыі браў удзел старшыня Беларускага Совнаркома камуніст Чарвякоў; цяпер-жа Іофэ падпісываў мір „по довѣренности“ ад Савецкага Беларускага Ураду.

Апроч таго, характэрны зьмэст артыкула 3.

У той час, як Польшча адмаўляецца ад земляў, ляжачых на ўсход ад новае граніцы на карысьць Беларусі і Украіны, — толькі Расея і Украіна, *але не Беларусь*, адмаўляюцца ад зямель, ляжачых на заход.

Гэта надта знаменацельна. Відаць, у радох беларускіх камуністаў зрабілася моцнае парушэньне. Яны адмовіліся ад удзелу ў конфэрэнцыі і *сваю „довѣренность“ расейскай дэлегацыі паставілі у залежнасьць ад вядомых варункаў*.

**Беларускае прэсбюро.**

## Беларусы, інтэрнаваныя у Тухолі.

У концэнтрацыйных лагерах у Тухолі знаходзіцца група беларусаў з Віленшчыны, інтэрнаваных, як „палонныя“.

Летась пры адступленьні польскага войска з Беларусі і Літвы, польская вайсковая і адміністратыўная ўлада зрабіла масавыя арышты сярод тутэйшага насяленьня. Арыштаваных вінавацілі ў „бальшавізьме“, пісалі на іх . . . . . . . . . пратаколы, а пасьля высылалі ў турмы ў Варшаву і Уронкі на Пазнаншчыні.

У верасьні леташняга году павязьлі тых палонных у лагер ў Домбя. У лістападзе лічылася там 932 беларускіх інтэрнаваных. У лютым 1921 году выдзелена з іх партыя ў 27 чалавек і пасланы спачатку ў макатоўскую турму, а пасьля ў лагер у Тухолі, як палонных, хаця яны наагул не ваявалі і паходзяць з тых мясцовасьцяў, якія цяпер займаюць польскія войскі і ўлады.

Аб тых інтэрнаваных беларусах не вядзецца ніякага сьледзтва, не даюць ім ніякага адказу на просьбы да вайсковых ўладаў і камісій. Не выдаюць ім таксама нічога з забраных пры арыштаваньні рэчаў і грошы, а даецца толькі адказ, што ніякіх дэпозытаў няма і, няма таксама пратаколаў на тыя дэпозыты.

Можа-б вайсковыя ўлады, якім падлягае лагер ў Тухолі, зьвярнулі ўвагу на ўсі гэтыя непарадкі?

А да цэнтральнага польскага ўраду зварочуемся з апеляцыяй, каб тых няшчасных, якія ў паказаным лагеры зносяць голад і холад, выпусьцілі ўрэшце на волю, а ня мучылі іх зусім бяз віны.

*„Вперед“ № 32* (515).

## Незалежнасьць і зямля.

Мір у Рызе, аканчальна падпісаны 18 марца, аддаў, як вядома, добры кусок Беларускай зямлі Польшчы. Савецкая Расея падаравала гэты кусок Беларусі палякам так, як дораць каня, карову, ці якую рэч мёртвую. І польскі ўрад разам з польскім устаноўчым Соймам так і глядзяць на гэту падараваную ім часьць Беларусі, як на рэч мёртвую, і ня хочуць бачыць, што тамака жывуць нейкія людзі, нейкі беларускі народ.

Польскі ўрад і польскі сойм ясна паказалі свае адносіны да Беларусі ўжо даўно: тады, калі была зацьверджана соймавая пастанова 17 сьнежня 1920 году аб ваеннай колонізацыі забраных абшараў беларускіх. З гэтай пастановы бачылі і бальшавікі, на што патрэбен Польшчы разьдзел Беларусі: бачылі, што палякам патрэбна наша зямля, каб высяліць на яе частку польскіх сялян-беззямельнікаў, каторыя цікавалі на двары польскіх паноў у Польшчы. І, бачучы гэта, ўсё-ж падпісалі рыжскі мір...

Рыжскі мір вызваў гарачы пратэсты з розных бакоў. Пратэставалі проці яго—яшчэ як ён быў толькі прэлімінарны—і беларускае грамадзямства, і беларускі ўрад. Пратэставалі і пратэстуюць соцыялісты і дэмакраты і другіх народаў, у тым ліку расейскія.

„Бальшавіцкая ўлада, — піша пражскі орган Зензінова, Лебедева і Мінора „Воля Россіи“,—абязсіліўшая Расею, выдала галавой Беларусь і паветы з украінскім насяленьнем польскаму імпэрыялізму. Расея соцыялістычная, Расея дэмократычная, Расея працоўная—яе працоўныя масы свайго подпісу пад гэнай умовай не далі і не дадуць“. («Воля Россіи» № 163—26 марца 1921).

А тымчасам беларускае нацыянальнае дабро: зямля,—тое дабро, якое становіць праўную ўласнасьць адвечнага гаспадара краю—беларускага народу, — перайшло ў рукі польскага гаспадарства. Соймавы закон 17 сьнежня 1920 году ясна гаворыць, якія катэгорыі зямельнае маемасьці становяць адгэтуль уласнасьць польскае дзяржавы. А ў гэтым ліку паказаны зямельныя ўчасткі, пакінутыя гаспадарамі, «калі гаспадары іх, або праўныя заступнікі апошніх ня вернуцца да сваей аселасьці да 1 красавіка 1921 году».

1-ае красавіка ўжо мінула. Хто дагэтуль не здалеў вырвацца з Савецкае Расеі-той на сваёй гаспадарцы знойдзе ўжо новага гаспадара: польскага жаўнера. Адгэтуль *права распараджацца бязпанской, казённай, банкаўскай і прыватнай нацыяналізаванай зямлей пераняў ад народу беларускага польскі народ*.

Гэты пераход вынікае з акту, падпісанага ў Рызе палякамі і бальшавікамі. Раз *дзяржаўная ўлада* перайшла ў рукі Польшчы, дык у яе-ж рукі пераходзяць і *ўсе вярхоўныя правы* на уступленай ім бальшавікамі тэрыторыі. Так кажа закон.

Ці рыжскі мір астанецца надоўга ў сіле, ці мо' і яго сустрэне такі канец, як мір падпісаны тры гады таму назад у Бярэсьці,—невядома. Але ясна і вядома, што пакуль Беларусь будзе аставацца ў дзяржаўнай залежнасьці ад усходняга і заходняга суседзяў, пакуль вярхоўная ўлада ў Беларусі будзе належаць не да беларускага народу, а да Масквы або Варшавы, — дагэтуль і *нашым нацыянальным дабром будуць распараджацца чужынцы*, і закон аб польскей ваеннай колонізацыі захавае сваю сілу і буде правадзіцца ў жыцьцё.

Зьмяніць утварыўшаеся палажэньне можна толькі адным спосабам. Гэта—рэалізацыя дзяржаўнае незалежнасьці непадзельной Беларускай Народнай Рэспублікі і зварот беларускаму народу яго вярхоўных, сувэрэнных правоў на яго зямлі. *Толькі незалежная Беларусь можа сама, сваім адумам і на карысьць свайго гаротнага сялянства разьвязаць зямельнае пытаньне*—толькі яна здолее *абараніць* наш найдаражэйшы скарб, основу нашага дабрабыту—*зямлю*.

Палітычная залежнасьць Беларусі—гэта і залежнасьць эканамічная, эканамічнае і соцыяльнае рабства.

**І. Мялешка.**

## Перад Брукселяьскай конфэрэнцыяй.

Пасьля таго, як Лізе Народаў не ўдалося разьвязаць пытаньне аб прыналежнасьці спрэчных тэрыторый Віленшчыны - Горадзеншчыны шляхам плебісцыту, пастаноўлена было склікаць у Бруксэлі конфэрэнцыю з прадстаўнікоў Літвы і Польшчы, якія-б пры пасярэдніцтве Лігі Народаў дайшлі ў канцы канцоў да згоды.

Літва і Польшча далі сваю згоду на Бруксэльскую конфэрэнцыю, і 18 дня гэтага месяца конфэрэнцыя мусіць-што пачнецца, калі... з боку Польскага Ураду ня будзе зроблена ніякіх таму прашкод.

Мы кажам—з боку польскага,—бо як паведамілі ўжо газеты, Літоўскі Урад даў сваю поўную згоду на конфэрэнцыю у Бруксэлі і на тыя ці іншыя яе рэзультаты, а Польскі Урад хоць і даў згоду на вядзеньне перагавораў, але не згаджаецца на арбітраж Лігі Народаў і наогул свае становішча ў адносінах да перагавораў і іх вынікаў хоча абаперці на так званай „нязломнай волі люднасьці“ Сярэдняе Літвы, быццам жадаючай далучыцца да Польшчы, а не да Літвы.

Старшыня будучай Бруксэльскай конфэрэнцыі бельгійскі міністар Гюманс скіраваў нядаўна да Польскаго Ураду новую ноту па літоўскаму пытаньню, аб каторой «Kr. Por.», гавора, што калі-б прыняць прапазыцыі Гюманса, то гэта-б азначала згоду Польшчы на арбітраж. Самой ноты газэта не надрукавала, і мы ня маем магчымасьці дасканальна разабрацца, у чым справа. Відаць, што Гюманс не здаволен становішчам Польшчы ў адносінах да Бруксэльскай конфэрэнцыі і магчымых яе вынікаў. Відаць, што Гюмансу хацелася-бы, каб Польшча дала сваю згоду на арбітраж. А Польшча, як можна вывесьці з комэнтарыяў «Kur Por.», арбітража ня прыйме.

Такім чынам палажэньне патроху высьняецца.

Літва гатова на перагаворы і на арбітраж.

Польшча гатова на пераговоры і проціў арбітража.

Галоўнай тэмай конфэрэнцыі, безварункова, зьявіцца тэрыторыяльнае пытаньне.

Ведаючы непрымірымасьць поглядаў Літвы і Польшчы, прад'яўляючыхсвае прэтэнзіі на адну і тую-ж тэрыторыю, трудна чакаць, каб без арбітража тут можна было-б абыйсьціся. Бо мы-ж бачылі ужо, што плебісцыт ня мог адбыцца, ад сойму у Вільні адмовіліся беларусы, ліцьвіны і жыды, а потым і урад Сярэдняй Літвы, хоць толькі-часова. Але скліканьне Сайму у Вільні, каб яно ізноў было паднято і было на гэты раз праведзено ў жыцце, ня ёсьць выражэньне справы паспраўядліваму,

Румынія раптам зрабіла сэпаратны мір з Аустра-Нямецкай коаліцыяй, паводлуг якога усе, так званыя рускія, адзелы ў Румыніі павінны были дэмобілізавацца, а усё вайсковае ўзбраеньне пакінуць румынам. Згодна пастановы саюзьнікау-усе вайсковыя рєчы, якія пакідаліся Румыніі, павінны былі перадавацца румынскаму ураду камісіямі з прадстаунікау рускіх, румынскіх, і саюзнага камандаваньня, па актах і сьпісках. У аднэй з такіх камісій—Бэндэрскай працавау і я. У горадзе Ясах пад даглядам некалькіх афіцэраў быў пакінуты архіў з усімі важнейшымі дакумэнтамі аддзелу Румынскага фронту, тамака і знаходзяцца ўсе акты і спісы ўсяго, што было пакінута рускімі аддзеламі ў Румыніі. У гэтым архіве можна знайці прыказы па Румынскаму фронту аб зьбеларусаваньні аддзелау, опісі і акты маемасьці гэтых аддзелау, выдадзенай румынскаму ураду. К гэтаму дакладаю, глаунакамандуючым румынскім фронтам быу румынскі кароль, дзеля чаго з гэтым павінны лічыцца і сучасны румынскі урад. Як мне ведама, украінскі урад атрымау усю маемасьць аддзелаў Румынскага фронту.

Далэй ідзе спісак розных дакумэнтаў аб тых ці інтых працах палкоуніка Чуніхіна-Карвецкага ў кірунку стварэньня беларускай арміі.

Подпіс:

**Чуніхін-Карвецкі, палкоунік.**

Сьнежань 1920 г.
м. Лодзь.

# Аб працы на весцы.

Некалі— ў перадваенныя часы,—беларуская нацыянальная работа мела характар выключна культурны і эканамічны. Усе думалі, што тыя палітычныя варункі, ў якіх мы жылі, будуць існаваць яшчэ доўгія гады, і толькі узьняўшыся на вышэйшую культурную ступень народныя масы здолеюць іх зьмяніць. Расейская дзяржава здавалася тады шмат каму такім магутным волатам, каторага ніхто і нішто пабіць не здалее. Толькі невялікая частка грамадзянства, толькі найбольш гарачыя галовы вялі тады палітычную барацьбу, рыхтуючыся да рэвалюцыі.

Цяпер палітыкай занімаюцца ўсе. Усялякія зьезды, якія адбываюцца ў нас, усялякія нарады занімаюцца бадай выключна пытаньнямі палітычнага характару. I гэта зусім зразумела: бо ў гэты мамэнт важыцца пытаньне аб усей будучыне нашае Бацькаўшчыны, бо нашы дужэйшыя суседзі, панавёўшы на Зямлю Беларускую мільёныя арміі, рвуць і рэжуць яе на кусочкі, жадаючы на сьмерць забіць наш народ. Вось чаму ўсе сьвядомыя беларусы горача выступаюць з пратэстамі проці такога зьдзеку над Беларусьсю, вось чаму палітыка займае ў нас першае месца.

Палітыка пакрыла сабой усё. Усё, што робіцца ў нашым краю, хоць-бы гэта былі справы чысты культурныя, ці эканамічныя, абяртаецца ў палітыку.

Самае пацьверджаньне *факту, што на Зямлі Беларускай жыве Народ Беларускі*, мае палітычны характар, мае вялікую вагу для палітыкі.

На кожным кроку гавораць нам гэта... нашы ворагі! Так, нашы ворагі, бо яны разумеюць, што, жадаючы паняволіць нашу Бацькаўшчыну, ім першым чынам трэба паказаць сьвету, быццам тут ніякіх беларусаў няма! У часе першай польскай окупацыі польская ўлада „выпрацавала" нават асаблівую статыстыку, ў каторай паказана, што на Зямлі Беларускай няма ніводнага беларуса-каталіка, бо хто каталік, той бач і паляк! Зусім так сама пад панаваньнем Расеі нас усіх запісавалі на паперы маскоўцамі...

Раз нашы ворагі хочуць паказаць, быццам нас няма,—значыць, гэта карысна для іх і шкодна для нас. Вось, мы і павінны ў сваей працы на вёсцы перш за ўсё кіравацца да таго, каб паказаць, што мы, беларусы, запраўды існуем, што мы тут ёсьць і становім не якуюсь малую жменьку, а большасьць насяленьня, што ўся зямля гэта—наша!

Як гэта зрабіць?

На гэтае пытаньне мы і хочам даць адказ:

*Кожын сьвядомы беларус, гдзе-б ён ні быў, павінен ясна и цьвёрда казаць, хто ён ёсьць.* У нашых сялянскіх масах, часта мала сьвядомых і збаламучаных рознымі чужацкімі агентамі, гэта мае асаблівую вагу,—тым балей, калі яны бачуць, што да беларушчыны прызнаецца інтэлігэнт. Весь, гэты інтэлігент *кожным сваім крокам, кожным словам ці то ў прыватным, ці ў грамадзкім жыцьці*, можа і павінен *сцьвярджаць сваю беларускасьць*, можа і павінен — бо гэтага ніхто і нішто забараніць яму і перашкодзіць ня здолее. Розныя „стражнікі крэсовыя" і другія чужацкія найміты стараюцца запужаць нашых сялян, стараюцца ўліць у іх душу *страх прызнавацца, што яны беларусы.* Гэты страх трэба зьніштожыць, трэба яго разагнаць, — і зрабіць гэта можа найлепш *прыклад інтэлігентаў і наагуль сьвядомых беларусаў.*

Барацьба з нацыянальным тэрорам, з гэтым бязпрыкладным пужаньнем беларуса, каб ня сьмеў прызнавацца да свайго народу, — барацьба гэта павінна станавіць першую задачу кожнага сьвядомага беларуса ў яго працы на вёсцы. Раз народ *перастане баяцца* гвалту, якім яго пужаюць, ён зусім паслядавацельна зробіць сам далейшы крок у кірунку разьвіцьця *нацыянальнае самасьвядомасьці.*

Ізноў-жа дзеля гэтага патрэбна якоесь жывое дзела, якаясь рэальнасьць, штось відочнае, ярка беларускае. Мала будзіць самасьвядомасьць толькі славамі: народ верыць ня сказу, а паказу, і яму трэба гэтае жывое дзела беларускае *паказаць*. Там, дзе закладзена беларуская школа, дзе існуе беларуская коопэратыва, або, хоць-бы гурток моладзі ці нешта падобнае, — там беларуская справа ў вачах народных мас становіцца *рэальнасьцю.* Мне даводзілася чуць словы радаснага зьдзіўленьня ад сялян, калі яны даведываліся аб існаваньні, напрыклад, беларускіх гімназій, сэмінарый і да т. п. Есьць гімназія — значыць, ёсьць інтэлігенцыя беларуская, каторая тамака вучыць, і хутка нарасьце новая інтэлігенцыя, каторая цяпер вучыцца ў гімназіі па беларуску! Значыць, ёсьць ужо сіла беларуская; значыць, гэта сіла з кожным годам будзе павялічвацца!..

Жывое дзела — гэта *і паказ і самацэль.* Як дробныя саляныя крышталікі, каторыя іскрачкамі сьвецяцца ў перасычанай вадзе, паказваюць прысутнасьць у ёй солі,— так нашы нацыянальныя установы і арганізацыі паказваюць, что наш народ жыве, што ў ім ёсьць творчая сіла, што ён сам сябе можа здаволіваць — здаволіваць свае рознародныя патрэбы цела і душы сваімі-ж уласнымі сіламі. У гэтых установах і арганізацыях гуртуецца і выяўляецца беларускае жыцьцё. Няхай варожая нам улада наездчыкаў і окупантаў разьбівае і зачыняе іх,—нам гэта ня страшна: такія *гвалты могуць рабіцца толькі ў цяперашні пераходны час.* Затое кожын гвалт будзіць у нашым народзе пачуцьцё, што тыя, хто прышоў да яго з фальшывымі славамі аб вызваленьні і узьдзеў яму новыя путы няволі,—гэта чужая яму, варожая сіла...

Як бачым, кожная праява нашае нацыянальнае працы, нашага нацыянальнага жыцьця, хоць-бы чыста культурная ці эканамічная, ёсьць сама на сабе спосабам абароны нашае Бацькаўшчыны ня толькі ад культурнае, але і ад палітычнае няволі. I калі наша вясковая інтэлігенцыя, калі ўсе нашы сьвядомыя беларусы, якіх штораз больш аб'яўляецца па вёсках, будуць рабіць сваю работу нават толькі ў межах культурна-прасьветных і эканамічных, дык яны гэтым самым узмацуюць і нашу чыста палітычную барацьбу — барацьбу за волю, незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі.

**Г. Б.**

# Рэформа школы у галоўнейшых культурных краех і працоуны мэтод у выкладаньні фізыкі.

(Гл. № 11).

Зьвяртаючыся да фізыкі, прыхільнікі гэтага кірунку лічаць патрэбным прымаюць пры ізучэньні яе працоўны прынцып ці самастойныя лабараторныя заняткі вучняў, бо гэтыя апошнія навучаць дзяцей самаму важнаму ў жыцьці, а іменна пядсьцерагаць (наблюдаць) і рабіць з падсьцярогаў (наблюдзеньняў) праўдзівыя вывады. У жыцьці ўсякаму дастаецца злучваць сваі дзеяньні з падсьцярогамі (наблюдзеньямі) й навет рабіць дасьледы для ўсьпеха сваіх спраў. Але мастацтва рабіць заключэньне. з падсьцярогаў і дасьледаў, г. ё. так званая «логіка экспэрымэнта» мала каму даецца. Звычайна дасьледы (вспыты) «ставяць няправільна», а яшчэ часьцей робяць няправільныя заключэньні з верна падсьцеражоных фактаў. Ізучаючы лабараторным шляхам фізыку, на аснове уласных дасьледау і падсьцярогаў, вучань.

Легка можа ўсвоіць гэту логіку экспэрымэнта, і гэта будзе самым карысным для жыцьця рэзультатам ізучэньня фізыкі. Апроч таго, ізучаючы па працоўнаму прынцыпу фізыку, г.-ё. самастойна працуючы ў лабараторыі з самага малодшага ўзросту, вучні навучацца ня толькі глядзець навакола сябе, але й бачыць, а таксама-ж падсьцерагаць і ізучаць прыроду. Самастойныя лабараторныя заняткі па фізыцы могуць даць вучням і другое вельмі дарагое ў жыцьці уменьне, вычытваць з кніжак па трэбнае веданьне, г. ё. «уменьне знахадзіць патрэбныя факты й падробнасьці ў кнігах наагул, а ня толькі ў справачных», як гаворыць праф. Алівэр Лодж.

Бо множства людзей звычайных здольнасьцей заняты прымяненьнем навук да падробнасьцей практыннага жыцьця гэткім спасабам: яны нічога важнага не разьвязваюць сваім розумам, а проста вычытваюць і прымяняюць правілы з кніг, у якія яны запісаны болей ведаючымі людзьмі.

Калі ужываньне працоўнага прынцыпа пры выкладаньні шмат якіх навукаў спатыкаець сур'ёзныя пярэчаньні, дык карыстаньне гэтым мэтодам пры вучэньні фізыкі ўсюды спатыкаець аднадушае падтрыманьне як з боку пэдагогаў і вучоных, таксама і з боку ўладаў усіх культурных старон. Выходзяцы з агульна-прызнаных заданьняў школьнае адукацыі, прыходзяць да перакананьня ў неабходнасьці працоўнага прынцыпа пры выкладаньні фізыкі.

Ў дакладзе відных вучоных і пэдагогаў, прадстаўленым Меранскому зьезду нямецкіх прыродаведальнікаў і дактароў у 1905 годзе кажыцца паміж іншым следуючае: «Выкладаньне фізыкі павінна даць вучням савакупнасьць асобных, ужываных у у жыцьці зьведаў, а таксама навучыць іх правідловаму ужываньню сваіх пачуцьцяў і ўменьню апісываць успрынятае адпаведна з запраўднасьцю». Памяркоўна з гэтым, «выкладаньне фізыкі», гаворыцца далей у вышэйуспомненым дакладзе, „трэба весьці галоўным чынам эўрыстычна, пры чым нельга здавольнівацца тым, каб вучні толькі здалёка глядзелі досьледы на (вопыты), якія паказываюцца на экпэрымэнтальным стале. Толькі ў тым выпадку, калі сам вучань працуець над здзейсненьнем хоць бы самых простых досьледаў, ён навучыцца ўсебакова і лёгічна меркаваць зьявы, крытычна прыглядацца і асьцярожна дзеіць".

У праграмах і вучэбных плянах 1901 году для прускіх сярэдніх школ сказана: «З школы вучань павінен вынесьці ўменьне правідлова орьіентавацца пры помачы сваіх пачуцьцяў і правідлова апісываць бачанае ім; ён павінен уразумець законамерную сувязь зьяваў прыроды і значаньне законаў прыроды для жыцьця; ён павінен азнаёміцца і з шляхамі, якія прыводзілі і могуць прыводзіць да пазнанья гэтых законаў. Нагляднае прадстаўленьне і экспэрымэнт павінны заняць віднае месца ў выкладаньні.

*А. Дмахоўскі.*

(Пряцяг будзе).

# Дуэт на разьвітаньне.

Пасьля падпісаньня Рыжскага міру Іофэ і Домбскі пацалаваліся.

З газэт.

**Іофэ.**
Абнімі, пацалуй,
Новы друг мілы мой,
Яшчэ разік хуччэй
Пацалуй гарачэй!

**Домбскі.**
Няхай эндэкі мяне скараюць
Затое, што цябе люблю
Я і эндэкаў не страшуся,
Што захачу, то і зраблю.

**Іофэ.**
Я ура-камуніст,
Я насьледнік цара,
Я народы дзялю
Лёгкім ўзмахам пяра.

**Домбскі.**
Нашто дарэмне ваявалі,
Было-б спакойна можна жыць
А Беларусь і Украіну
Змаглі-б заўсёды падзяліць.

**Іофэ.**
Не патрэбна мне іх,
Я ня знаю таскі,
Я душыць буду іх
Аж да труннай дашкі.

**Разам.**
Вялікі нам тут дзень настау,
Як Рыжскі мір на сьвет паўстаў!
Усё весяліцца і лікуе,

— — — — — — — — —

**Музыка без языка.**

# Штодзенныя весткі.

*Пятніца,* 1 *красавіка* 1921 *г.*

— Поль Гіманс, які дэлігаваны Лігай Нацый за старшыню у Брусэльскую камісію на час польска-літоўскіх перагавораў аб лёсе Віленшчыны, паслаў польскаму Ураду ноту, у каторой ад іменьня Лігі Нацый выказывае жаль, што Польшча не прыняла агулам прапазыцый Лігі 3 сакавіка. Гіманс запрашае, далей, польскіх дэлегатаў прыехаць у Брусэль, каб пачаць перагаворы, папераджаючы аднак Польшчу, што яна павінна згодзіцца на варункі Лігі Нацый; разам ён выражае надзею, што Польша не захоча перашкаджаць перагаворам.

— Быўшы аўстрыяцкі імпэратор Карл зьявіўся ў сталіцу Вэнгрыі і заявіў, што ён хоча быць вэнгерскім каралём.

— Зьезд соц.-дэмакратаў у Швэцыі выказаўся за прылучэньне да III інтэрнацыяналу.

— Два вялізныя аэропляна, зробленыя ў Нямеччыне прыляцелі у Нью-Іорк (Паўночн. Амэрыка) прайшоўшы 3700 кілём. бяз спуску за 29 гадз. 38 мін.

*Субота,* 2 *красавіка* 1921 *г.*

— Лейд-Джордж радзіўся з ваенным міністрам аб новых спосабах прынукі проці Нямеччыны, дзеля яе упорства.

— З Парыжу паведамляюць, што Чэхія прыме на сябе абавязак акупаваць лінію Майна, а Польша займе вайскамі Верхн. Сілезію.

— У Верхн. Сілезіі неспакойна. Палякі просяць аб ўвядзеньні стану абляжэньня.

— Украінцы ў Вене дасталі весткі, што на Валыні і у Кіеўшчыне пашыраецца шмат расейскай манархічнай літэратуры.

— Польскія гандлёвыя кругі ладзяцца пасланць дэлегацыю з купцоў у Расею, каб завязаць гандлёвыя зносіны з Расеяй.

— Ангельская работніцкая партыя пастанавіла не прылучацца да III інтэрнацыяналу.

— Расейскі Савецкі Урад аддае нямецкой фірме Круппа Охценскі і Пуцілаўскі заводы ў Петраградзе з правам эксплаатаваць іх 6 гадоў.

— Дзеля няпрыхільных адносін італьянскага грамадзянства да Са-

Усіх паважаных грамадзян падпісчыкаў, якія неакуратна дастаюць „**НАШУЮ ДУМКУ**", надта просім паведаміць нас аб гэтым.

